**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламных аб'яў у чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін.**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 45 (74). Слонім. 5 — 11 лістапада 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

НАВІНЫ

## Каждый двадцатый — безработный!

**Сегодня каждый двадцатый житель нашего района из числа трудоспособного населения официально зарегистрирован как безработный. А скрытая безработица еще выше, так как многие из-за низкого пособия просто не регистрируются.**

По словам директора Слонимского регионального центра занятости Анны Мазюк, сейчас на учете состоит примерно 2120 безработных.

Практически ежедневно эта цифра меняется по мере трудоустройства людей. Размер пособия по безработице сейчас составляет от одной до двух минимальных зарплат.

**Александр ВИЛЬКОВСКИЙ**

## Археолагі не спатрэбіліся

**Нядаўна падчас капання траншэі пад водаправод каля будынка ЖЭС-1, што на Першамайскай вуліцы, рабочыя знайшлі жалезны люк.**

"Экспедыцыя" у падзямелле была адкладзена на наступны дзень. Раніцай 28 кастрычніка да таямнічага месца прыехалі работнікі водаканала, намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Конан, галоўны архітэктар Уладзімір Казырновіч. Агледзеўшы звонку падземнае памяшканне, яны з'ехалі. У. Казырновіч вырашыў пагледзець на старыя планы горада або "звярнуцца да археолагаў", каб даведацца пра невядомае падземнае збудаванне.

Калі каля траншэі засталіся толькі карэспандэнты "ГС" і начальнік ЖЭС-1 Аляксей Сухарукаў, адзін з рабочых рызыкнуў спусціцца ўніз па жалезнай драбіне. Высветлілася, што знойдзены аб'ект ніякага дачынення да слонімскіх падзямелляў, пра якія "ГС" неаднойчы пісала, не мае. Верагодна, гэта быў звычайны адстойнік каналізацыі, глыбінёй у некалькі метраў. А. Сухарукаў прыпомніў, што ў будынку жыллёва-эксплуатацыйнай службы раней была пральня. Аднак знойдзеная 80-мм труба чамусьці ўваходзіла ў калодзеж з боку сённяшняга кафэ "Шчара"...

На гэтым інцыдэнт мог быць вычарпаны. Але невядома, як ЖЭС-1 зможа правесці водаправод, бо знойдзенае падземнае збудаванне вельмі перашкаджае гэта зрабіць.

**Сяргей ЁРШ**

## Юбілей школы

**Глоўсевіцкай школе споўнілася трыццаць гадоў.**

На юбілейную ўрачыстасць, якая адбылася ў пятніцу 30 кастрычніка, прыехалі выпускнікі школы, былыя настаўнікі, вяскоўцы, а таксама работнікі райвыканкама.

У суботу, 7 лістапада, сваё 60-годдзе адзначыць Сянькоўшчынская школа.

**Міхась АКУЛКА**

## У праваслаўных — Дзяды

**7 лістапада праваслаўная царква будзе адзначаць Дзень памінання продкаў.**

У сувязі з гэтым у пятніцу, 6 лістапада, у слонімскай Свята-Троіцкай царкве адбудзецца памінальнае богаслужэнне. Пачатак у 17 гадзін. А 7 лістапада ў 8 гадзін адбудзецца Боская літургія. Царкоўны савет Свята-Троіцкай царквы паведамляе, што запіскі з імёнамі памерлых прымаюцца да пачатку богаслужэння ў абодва памінальныя дні.

У суботу на Ружанскіх могілках (пачатак у 10.00) і на могілках па вуліцы Чырвоных партызан (пачатак у 12.00) пройдуць памінальныя богаслужэнні.

**Сяргей ЁРШ**



ЗДАРЭННІ

## Начны напад

**Двое невядомых напалі на вартавога, які ахоўваў парк баявой тэхнікі Слонімскай механізаванай брыгады.**

Гэта здарылася ў тры гадзіны ночы з 27 на 28 кастрычніка. Салдат не разгубіўся і адкрыў агонь. Свіст куль спалохаў мужчын, і яны кінуліся на ўцёкі. Па гэтаму факту праводзіцца расследванне.

"ГС" стала вядома, што ў аднаго з нападаючых у руцэ быў кавалак металічнай трубы. Каб абараніць сябе, вартавы застрэліў паўмагазіна патронаў.

## Дамоў не вярнуўся

**3 гасцей не вярнуўся дамоў вучань СШ №9 Сяргей Дабрынін, які гасцяваў у Івацэвічах.**

Аўтамабіль, на якім ён ехаў разам з сябрамі, трапіў у аварыю. Слонімец загінуў на месцы здарэння.

## Палтэргейст у Дзераўной

**Незвычайны пажар здарыўся на мехдвары калгаса "Упорад".**

Не паспеў вадзіцель пасля рэйсу паставіць свой ГАЗ-53 на месца стаянкі, як раптоўна загарэлася кабіна аўтамабіля. Пажарныя выратавалі грузавік, не пацярпеў і шафёр. Прычыны ўзгарання высвятляюцца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Пра лекі думайце днём

**У аптэцы №61 адменены начныя дзяжурствы.**

Менавіта такое рашэнне прынялі мясцовыя ўлады на апошнім пасяджэнні выканкама.

Як патлумачыла карэспандэнту "ГС" загадчыца аптэкі Алена Курцэвіч, гэта звязана з нерэнтабельнасцю начных дзяжурстваў. Для прыкладу яна паведаміла, што за апошнія два тыдні ў начны час ніхто за лекамі не звяртаўся.

Загадчыца таксама сказала, што з лістапада аптэка пераводзіцца на зімовы графік працы і будзе працаваць да 22 гадзін. Дарэчы, адзначым, што аптэка №61 была адзінай дзяжурнай аптэкай у Слоніме.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## Тяжело в учении...

**Слонимская механизированная бригада готовится к инспекционной проверке, которую 16 ноября будет проводить Министерство обороны.**

В связи с этим сейчас во всех воинских подразделениях соединения идет активная подготовка. Например, воины 1-го отдельного мотострелкового батальона, которым командует подполковник Петр Берг, более месяца оттачивали свое мастерство на полигоне по тактической, огневой подготовках и вождению боевых машин. Лучших успехов добилась 2-ая рота капитана Шуткова. Этому офицеру на коллегии минобороны генерал Чумаков вручил ценный подарок.

**Андрей ЧЕРНЕНКО**

## Идёт подписка

**Как известно, сейчас идёт подписка на газеты и журналы на первое полугодие 1999 года.**

Стоит отметить, что цены подписки, как на белорусские, так и российские издания, по сравнению со вторым полугодием этого года, заметно выросли. Причиной тому стали последствия российского экономического кризиса: резко взметнулись вверх цены на газетную бумагу, типографские услуги. Потому и мы вынуждены были увеличить стоимость подписки на "Газету Слонимскую". Полугодовой комплект нашего издания стоит 210 тысяч рублей. В то же время цены подписки на "Народную газету", "Рэспубліку" выросли до 300 тыс.руб., "Навіны", "Народную Волю" — до 600 тысяч руб., "Комсомольскую правду" — до 1 млн. 180 тыс.руб. Среди белорусских изданий самая дорогая подписка у спортивной газеты "Прессбол" — 1 млн. 800 тыс., а среди зарубежных изданий у английской "Таймс" —свыше 167 млн.руб.

Так что выписывайте и читайте *«Газету Слонимскую»*.

**Наталья ФУРСАВА**

ЗДАРЭННІ

## Смерць на пераездзе

**На чыгуначным пераездзе, што каля маслазавода, пад коламі цягніка Гродна-Баранавічы загінула 40-гадовая сланімчанка Галіна Каралёва, якая працавала музычным кіраўніком дзіцячага садка ў в.Васілевічы.**

Здарылася гэта ў панядзелак, 2 кастрычніка, у 6 гадзін раніцы. Машыніст дызеля, убачыўшы, як пад лакаматыў кінулася жанчына, уключыў экстранае тармажэнне, але трагедыі пазбегнуць не ўдалося. Сіратой застаўся 6-гадовы сын.

Цяпер праваахоўныя органы высвятляюць, што падштурхнула жанчыну скончыць жыццё такім чынам.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Не туда поехали

**Слонимский отдел финансовых расследований возбудил уголовное дело по факту нарушения налогового законодательства в колхозе "Победа".**

Выяснилось, что бухгалтерия этого хозяйства применила начисление на льготу в размере 116,4 млн.руб. по налогу на добавленную стоимость при реализации мяса одной из минских фирм. Все бы ничего, если бы груз был доставлен в столицу. Проверка показала, что 44,6 тонны колхозного мяса почему-то отправились в Санкт-Петербург.

**Анатолий МИРСКИЙ**

НАША ІНТЭРВ'Ю

# ДЭМАКРАТЫЯ І ПРЭСА Ў ЛІТВЕ



**Як паведамляла "ГС", нядаўна ў Слоніме прайшоў семінар пад назвай "Рэформа мясцовага самакіравання ў Беларусі і Літве", які быў арганізаваны беларускім прадстаўніцтвам фонда Фрыдрыха Эберта і фондам Льва Сапегі. У семінары прымалі ўдзел дэпутаты мясцовага гарсавета і госці з Літвы. У тым ліку мэр раёна Радвілішкіс Вітаўтас Сімеліс.**

**Сёння мы прапануем яго інтэрв'ю, якое ён даў эксклюзіўна для "ГС".**

**— Паважаны мэр, дзе знаходзіцца раён Радвілішкіс, які вы прадстаўляеце?**

— У самым цэнтры краіны: 200 км ад Вільнюса, 200 км ад Рыгі і з'яўляецца самым буйным чыгуначным вузлом Літвы. Вышэйшым органам кіравання раёна з'яўляецца Савет самакіравання, у склад якога ўваходзяць 27 чалавек.

**— Што ўяўляе сабой склад Савета самакіравання?**

— Калі казаць пра склад Савета па партыйнай прыналежнасці, то гэта выглядае наступным чынам: 8 членаў Савета з'яўляюцца прадстаўнікамі партыі кансерватараў, 5 — сацыял-дэмакратаў, 5 — прадстаўнікі літоўскай працоўнай партыі, 4 — сялянскай, 3 — хрысціянска-дэмакратычнай партыі і 2 — ліберальна-дэмакратычнай партыі. Такім чынам, у Савет самакіравання ўваходзяць прадстаўнікі шасці партый. Пры абмеркаванні пытанняў і падчас галасавання спрэчак па палітычных матывах ніколі не бывае. Бо аб выніках галасавання назаўтра будзе ведаць амаль усё насельніцтва раёна. І калі прадстаўнік адной з партый прагаласаваў не так, як лічаць яго калегі, то затым яны строга з яго спытаюць. А мясцовая прэса яшчэ зробіць і скандальны матэрыял па ўзгаданаму факту.

**— Колькі газет выходзіць у вашым раёне?**

—Адна газета, якая мае назву "Наш край". Да 1990 года гэта было дзяржаўнае выданне. Цяпер — яна незалежная. Мы заключылі з рэдакцыяй дамову, згодна якой раз у тыдзень змяшчаем на старонках выдання матэрыялы, каб пазнаёміць сваіх жыхароў з мерапрыемствамі, якія праве́ў Савет самакіравання. Дарэчы, за змяшчэнне сваіх матэрыялаў мы плоцім газеце немалыя грошы. Мы вырашылі не выдаваць газету мэрыі, бо гэта каштуе вельмі дорага. Выдаецца яшчэ і акружная газета "Край Шаўляй", дзе мы некалькі разоў у месяц публікуем матэрыялы пра жыццё раёна, за што таксама плоцім грошы.

**— Ці не азначае гэта, што вы нейкім чынам уздзейнічаеце на змест газеты?**

— Ні ў якім разе. Бо карэспандэнты ў сваіх публікацыях адлюстроўваюць бягучыя падзеі са свайго пункту гледжання, улічваючы меркаванні ўсіх шасці партый і грамадзян раёна.

**(Працяг на 2 стр.)**

НАША ІНТЭРВ'Ю

# ПАЛОМНІЦТВА Ў РЫМ

**Нядаўна ў сталіцы Італіі, Рыме, праходзіла юбілейная цырымонія з нагоды 20-годдзя Пантыфікату Папы Рымскага Яна Паўла II, на якой пабывалі восем паломнікаў са Слонімшчыны. У іх ліку была і выкладчыца музычнай школы Марыя Гірко.**



**— Марыя Барысаўна, хто арганізатар паломніцтва ў Рым?**

— Яно праходзіла пад патранажам Метрапаліта Мінска-Магілёўскага кардынала Казіміра Свёнтэка. У паломніцтве прынялі ўдзел 850 каталіцкіх вернікаў з усіх куткоў Беларусі.

**— Колькі каштавала паездка ў Рым?**

— Кожны паломнік заплаціў па 300 даляраў ЗША, а астатнюю суму кампенсавала царква. Паехаць на сустрэчу з Папам маглі толькі вернікі, якія рэгулярна наведваюць касцёл. Праехаўшы Польшчу, Чэхію, Аўстрыю, праз суткі наша група прыбыла ў Італію. Нас пасялілі ў трохзоркавы гатэль з двухразовым харчаваннем. Назаўтра адбылася экскурсія ў Венецыю, дзе мы наведалі сабор св.Марка, каталіся на гандолах, пабывалі ў многіх музеях...

**— А калі сустракаліся з Папам Рымскім?**

— 16 кастрычніка на плошчы св.Пятра ў Ватыкане адбылася святая імша для ўсіх паломнікаў-палякаў, дзе іх сабралася больш як 15 тысяч чалавек. Немагчыма перадаць тыя ўражанні, што мы атрымалі падчас набажэнства на плошчы, якую ўпрыгожваюць 284 мармуровыя калоны, пад якімі змешчаны 140 статуяў святых і пакутнікаў. Можаце ўявіць сабе відовішча, падчас якога моляцца і спяваюць каля 100 тысяч вернікаў. А на наступны дзень у вялікай зале на тэрыторыі Ватыкана адбылася сустрэча беларускіх паломнікаў з Янам Паўлам II. Спачатку з намі гутарылі кардыналы з біскупамі, якія расказалі пра жыццёвы шлях Папы, пра яго заслугі ў справе ўмацавання міру паміж народамі свету. Перад сустрэчай нас яшчэ папярэдзілі, каб мы не імкнуліся ўзяць аўтограф у Папы, бо ў Ватыкане гэта забаронена. Дарэчы, адзін з кардыналаў паведаміў, што гэта першая на працягу гэтага года асабістая сустрэча Яна Паўла II з вернікамі. І адбылася яна таму, што за ўсю гісторыю Рымскай каталіцкай царквы, мы былі першай групай паломнікаў з Беларусі. У прызначаны час з'явіўся Папа. Да нас ён звярнуўся на добрай беларускай мове. Папа благаславіў нас, падзякаваў за тое, што мы змаглі прыехаць на ўрачыстасці ў сувязі з 20-годдзем яго Пантыфікату. Потым Папа спусціўся з трыбуны ў залу, каб бліжэй пазнаёміцца з беларускімі вернікамі. Рухаючыся паміж радамі, ён вітаўся за руку з паломнікамі. У многіх на вачах з'явіліся слёзы. Папа прайшоў побач са мной, але мне не пашчасціла павітацца з ім за руку.

**— Якія яшчэ ў вас засталіся ўражанні ад паездкі ў Рым?**

— Захаплялася наяўнасцю вялікай колькасці храмаў, гістарычных, мастацкіх і культурных каштоўнасцяў. Найбольш запомнілася экскурсія ў галоўную святыню Ватыкана — Сабор св.Пятра, у якім адначасова могуць маліцца 18 тысяч вернікаў. Бачыла Калізей, Капітолій і іншыя цудоўныя рымскія мясціны. Гэту паездку буду памятаць усё жыццё.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ДЭМАКРАТЫЯ І ПРЭСА Ў ЛІТВЕ

**— Ці былі выпадкі, калі карэспандэнтам забаранялі прысутнічаць на мерапрыемствах, якія праводзіў Савет, альбо не давалі журналістам пэўнай інфармацыі?**

— У нас склалася практыка, што на ўсе мерапрыемствы мы самі запрашаем карэспандэнтаў газеты. Бо хто лепш за іх напіша пра мясцовыя падзеі? Пры неабходнасці, даем дадатковую інфармацыю, якой карэспандэнт, магчыма, і не ведаў. Гэта мы робім з той мэтай, каб пазбегнуць шматлікіх пытанняў ад жыхароў раёна.

**— Ці існуе пэўны парадак атрымання інфармацыі ў мэрыі?**

— У Савеце самакіравання працуе чалавек, які адказвае за сувязі з прэсай. Ён два разы на тыдзень прыходзіць да мяне, як да мэра і пытае, чым я буду займацца на працягу тыдня, а таксама рыхтуе для газеты расклад мерапрыемстваў, што павінны прайсці ў раёне на працягу тыдня, потым інфармуе газету, а рэдакцыя сама вырашае, пра што пісаць. Дарэчы, усе пасяджэнні Савета адкрытыя. Я не памятаю ніводнага пасяджэння, на якім бы не прысутнічаў журналіст.

**— Ці існуе ў Літве закон, які абавязвае органы дзяржаўнага кіравання і мясцовага самакіравання рэагаваць адпаведным чынам на крытычныя матэрыялы, змешчаныя ў прэсе? Ці былі канфлікты паміж Саветам самакіравання і прэсай?**

— Такога закону ў Літве не існуе. Аднак мы заўсёды ўважліва адносімся да крытычных матэрыялаў, якія даволі часта з'яўляюцца ў газеце. І калі крытыка аб'ектыўная, лічым сваім абавязкам адпаведным чынам адрэагаваць на яе і даць адказ газеце. Нядаўна газета крытыкавала мяне за тое, што па маёй камандзе асфальтавалася вуліца, на якой я жыву. Былі нават змешчаны здымкі майго дома на фоне тэхнікі, што укладвала асфальт. Мяне гэта ніколькі не пакрыўдзіла. На старонках газеты былі змешчаны пісьмы жыхароў вуліцы. Людзі, наадварот, пісалі, што гэта адна з апошніх незаасфальтаваных вуліц горада і што я, як, мэр, да гэтага часу не прымаў ніякіх актыўных захадаў, каб яе адрамантаваць. На крытыку ў свой бок я не стаў рэагаваць, бо лічу, што калі пачнеш апраўдвацца, то ў людзей узнікае падазронасць, і прэса яшчэ больш за цябе ўчэпіцца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НОВОСТИ

## Готовьте доллары

**Как стало известно, Национальный банк Беларуси разрешил розничную торговлю товарами импортного производства за иностранную валюту.**

Для осуществления розничной торговли за валюту необходимо получить лицензию, стоимость которой составляет 100 минимальных зарплат.

## Сроки определены

**Установлены сроки отправки призывников в Вооруженные Силы Беларуси: 7-15 декабря, 11-15 и 25-29 января.**

Срок увольнения всех военнослужащих срочной службы должен завершиться до 30 декабря.

## Введены новые монеты

**Одна из них — серебряная, достоинством 10 рублей — посвящена 200-летию со дня рождения Адама Мицкевича.**

Две другие — серии «Гарады Беларусі» — посвящены 500-летию получения Полоцком Магдебургского права; это серебряная и медно-никелевая монеты, достоинством, соответственно, 20 рублей и один рубль.

Каждая монета имеет тираж 2000 штук.

## Тихо умираем

**За девять месяцев 1998 года в Беларуси родилось чуть более 62 тысяч, умерло почти 90 тысяч человек.**

Одна из основных причин смерти граждан Беларуси — болезни системы кровообращения, от которых в нынешнем году скончались 46 тысяч человек.

За последний год количество самоубийств возросло на два процента. Кроме того, в 1998 году отравилось алкоголем свыше полутора тысяч человек.

## Каждому афганцу — по медали

**К десятилетию вывода советских войск из Афганистана каждому участнику боевых действий будет вручена памятная медаль.**

На её лицевой стороне на фоне гор будет изображен вертолет, а ниже — силуэты офицера и солдата. На оборотной стороне надпись: «В память десятилетия со дня вывода советских войск из Афганистана».

**БелаПАН**

ПРОГНОЗ

## Пик кризиса придется на весну 1999 года

**Национальный исполнительный комитет (НИК) Беларуси подготовил анализ и прогноз развития экономической и политической ситуации в стране на период до 2000 года.**

Как сообщил председатель НИК Геннадий Карпенко, теневое правительство рассматривает нынешнюю ситуацию, как начало полномасштабного кризиса белорусской экономики, пик которого придется на весну следующего года — именно тогда по-настоящему скажутся последствия российского кризиса.

По расчетам НИК, через полгода курс американского доллара на «черном» валютном рынке вырастет до 600-700 тысяч рублей, цены — в два раза, средняя заработная плата составит чуть более 20 долларов, средняя пенсия — не выше 10 долларов. Ассортимент лекарственных средств в аптеках уменьшится на 70%, а оставшиеся препараты будут недоступны малообеспеченным слоям населения. К будущей весне лишь 15-20% колхозов и совхозов смогут заниматься сельскохозяйственным производством, а спад промышленного производства составит до 20%. К 2000 году, по мнению Национального исполнительного комитета, следует ожидать коллапса белорусской экономики.

**БелаПАН**

ПРОШУ СЛОВА

## Кто более великий — Лев Сапега или Ленин?

Автор В.Згомля, в своей статье по поводу места памятнику Льву Сапеге в нашем городе, поставил вопрос: кто более великий — Лев Сапега или Ленин?

Я считаю, что это смотря для кого. Если посмотреть глазами белоруса, то Лев Сапега — канцлер Великого Княжества Литовского, одного из крупнейших государств Европы того времени. Лев Сапега — звезда первой величины на небосклоне политической истории Беларуси. Он так же был великим полководцем во время крупных военных кампаний, был великим строителем и созидателем. А если почитать письмо В.Згомли, то Лев Сапега был всего лишь сельским старостой.

Что касается Ленина, то это был великий разрушитель не только для России, но и для многих народов, входивших в состав русской советской империи, которые до настоящего времени не могут оправиться от учения этого мыслителя. Ленин только и занимался торговлей нашими землями.

Автор публикации кивает на Париж, что там стоят памятники как положительным, так и отрицательным героям. Да, это правда. Но это их соотечественники, а кто нам Ленин?..

Да и как будет смотреться памятник Ленину рядом с собором, который был разрушен согласно учению Ильича. Место для памятника Ленину — на его родине, только не на нашей земле. А памятник Льву Сапеге я бы желал видеть в центре города. Он заслужил этого.

**Павел НАУМОВИЧ, 64 года**

## Стоит ли тратиться на показуху?

Недавно в колхозе "Дружба", на базе фермы Соколово, прошел районный семинар по животноводству. На его подготовку было привлечено большое количество людей и техники! Стоит ли это тех затрат, которые несет колхоз? Убирать территорию и белить помещения, наверное, нужно в течение года. Мы знаем к чему привела похожая показуха 20 июля, когда выкрашенные снаружи зерносушилки не были на самом деле отремонтированы. В результате, они часто простаивали во время уборки колосовых.

Пускай районное начальство досмотрит ферму в Грынках, где в воловнике по две недели не удаляется навоз. Жижа расплывается во все стороны, и никто не подумал органику забуртовать, в то время, как за все лето не было заготовлено и вывезено на поля ни одной тонны навоза.

Сейчас в хозяйстве осталась одна исправная сеялка, которой можно сеять, и та часто ломается.

Контроль со стороны РАПО и председателя исполкома отсутствует. Не потому ли, что председатель колхоза Жданович посадил три гектара картошки в колхозном массиве для работников сельхозуправления? Сажали техникой колхоза, обрабатывали, как колхозную, а копать нашлись хозяева. Им председатель выделил три копалки и 4 машины,чтобы урожай отвозили в город, на улицу Ершова, в хранилище. Всего сдали 20 тонн картофеля. А своим колхозникам выделили участки в низком месте, плохо обрабатывали, копалок не выделили. Хотя с колхозников деньги за обработку участков и семена взяли еще весной.

**Петр МЕЛЕШКО, шофер колхоза "Дружба"**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 4 лістапада 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз. Заказ №3018
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

НАША ГІСТОРЫЯ

# АБ ЛЮДЗЯХ, ЯКІХ ТРЭБА ПОМНІЦЬ

**Так ужо павялося, што дабро людзі хутка забываюць. Можа гэта таму, што не хочуць абцяжарваць сябе абавязкам удзячнасці?..**

Я хачу звярнуць увагу слонімцаў на тых земляхкоў, якія ахвяравалі сябе менавіта бескарыслівама служэнню людзям, іншы раз рызыкуючы пры гэтым сваім жыццём. Размова пойдзе пра цяжкія ваен-



**К.В.Капралаў**

ныя і пасляваенныя гады, калі слонімскія медыкі ў складаных умовах змагаліся за здароўе землякоў.

Структура медыцынскіх установ у нашым горадзе існавала яшчэ з даваенных часоў. Напрыклад, у корпусе сённяшняга скурдыспансера на Камсамольскай (Замкавай) вуліцы ў той час знаходзілася хірургія. У дамах побач з ім была тэрапія. У двухпавярховым доме насупраць спартзалы медвучылішча працавала гінекалогія (гэты будынак згарэў падчас вайны). Слонімскі раддом быў насупраць парка, таксама двухпавярховы дом. Інфекцыйны шпіталь пабудавалі на Савецкай вуліцы ў 1923 годзе.



**В.П.Віктарава**

Гэтая структура аховы здароўя існавала і ў час Другой сусветнай вайны.

Варта ўспомніць дактароў, якія працавалі ў той час. Антон Лойка, хірург Маліноўскі, Дамініка Іванаўна



**В.Ю.Філютовіч**

Іванчук. Удзень і ўначы гэтыя людзі пешшу ішлі да хворых, бо хуткай дапамогі тады яшчэ не было. У той час у горадзе былі ўспышкі брушнога тыфу, ад дызентэрыі паміралі дзеці, хварэлі на менінгіт, дыфтэрыю...

Нельга забыць Кацярыну Паўлаўну Жураўлёву, доктара Эфроса, расстраляных на Пятралевіцкай



**Казімера Валоўская**

гары. Адддалі свае жыццё і дзве манахіні са слонімскага каталіцкага кляштара – урач Эва Найшэўская і Казімера Валоўская.

Пасля вайны раённая бальніца існавала ў кляштары, дзе цяпер знаходзіцца неўралогія. Паліклініка была ў будынку сённяшняга музея, а пасля – дзе цяпер дзіцячая паліклініка. Раддом і гінекалогія знаходзіліся там, дзе сёння месціцца скурна-венерагалічны дыспансер.

Першым галоўным урачом у Слоніме быў хірург Канстанцін Васільевіч Капралаў (1947-51г.г.), а пасля – Бэла Рабіновіч. Райздраўаддзелам кіравала Вольга Віктарава, аж да яго ліквідацыі. А пасля яна была да 1970 года галоўным урачом бальніцы. Намеснікам Віктаравай быў Віталь Юльянавіч Філютовіч з Кракоткі. Інфекцыйным шпіталём кіраваў Міхаіл Ігнацік.

З 1960 года мне пашчасціла працаваць з гэтымі людзьмі. Памятаю загадчыка аблздраўаддзела Гарыенку, які часта правяраў слонімскую медыцыну. За сон на медыцынскім пасту каралі звальненнем... Адчувалася, што ўсё было пастаўлена на службу хвораму. Адказнасць была вялікая. Але хачу сказаць, што нашы медыкі былі людзьмі вялікай душы і самаахвярнасці. У час вайны ім давялося бачыць і голад, і холад, і смерць...



**Б.В.Рабіновіч**

Мне здаецца, што старажылы-слонімцы ўдзячныя гэтым людзям, і тым, хто жыве, і тым, каго ўжо няма.

**Вячаслаў СЦЯПУРА**

## Школьніцтва на Слонімшчыне

Вытрымка з пратакола канферэнцыі школьных інспектараў Беларусі ў Мінску ў 1941 годзе:

"17 снежня. Дакладвае інспектар Слонімскай акругі сп.Няпомнік:

Акруга толькі што арганізуецца. Гэта тлумачыцца тым, што позна было акрэслена адміністратыўнае размежаванне. Сёння маецца 7 раёнаў. Школы адкрыты толькі ў 4-х раёнах, у якіх налічваецца 207 школ. Настаўнікаў – 357, з іх беларусаў – 216, палякаў – 133, рускіх – 5. Не хапае 150 настаўнікаў. Навучэнцаў у гэтых 4-х раёнах – 19320. Школы, за выключэннем 4-х польскіх, усе беларускія. У Слоніме існуе рамесная школа, якая рыхтуе сталяроў, кавалёў, слесароў, шаўцоў, пекараў, мяснікоў і цырульнікаў. Ёсць дазвол Акружнога камісара на адкрыццё 6-месячных настаўніцкіх курсаў, але гэтыя курсы пакуль не адкрыты. Некаторых настаўнікаў, якія запісаліся палякамі, прыйшлося зняць з работы. Здарылася, што звольнены падаваў на імя Акружнога камісара заяву і пісаў, што ён – беларус і што яму, як беларусу, не дазваляюць працаваць у школе.."

**"Беларуская школа" (Мінск), №1-2, 1942г.**

КНІГА Ў ГАЗЕЦЕ

***Васіль СУПРУН. «Дзеі над Шчарай» (З гісторыі зямлі Слонімскай)***

Аб'екты (помнікі) археалогіі — гэта месцы, дзе выяўлены сляды ці прыкметы, звязаныя з існаваннем жывых істот і дзейнасцю людзей — нашых далёкіх продкаў. У дадзеным выпадку нас будуць цікавіць стаянкі першабытнага чалавека, пазнейшыя селішчы, гарадзішчы-сховішчы і могільнікі былых насельнікаў сучаснай Слонімшчыны. Трэба адзначыць, што далёка не ўсе гэтыя аб'екты лёгка даступны вызначэнню, некаторыя з іх патрабуюць спецыяльных даследванняў і нават раскопак. Калі, напрыклад, гарадзішчы з сістэмай земляных валаў і равоў або курганныя могільнікі з яўна выражанымі насыпамі прыкметны і неспецыялісту, то стаянкі, селішчы і старажытныя грунтовыя могільнікі, без надмагільных прыкмет, заўважыць складаней. Яны прыхаваны зямлёй стагоддзяў.



Чалавек без вады ніколі не мог існаваць і імкнуўся сяліцца побач з рэкамі, азёрамі, невысыхаючымі крыніцамі і балотамі, выбіраючы сухія пагоркі, што не затапляліся паводкамі. Тут археалагічныя помнікі, звычайна, шнурочкамі туляцца да вадаёмаў, толькі гарадзішчы-сховішчы выносіліся на цяжкадаступныя ўзвышшы. А наогул, першыя гарадзішчы на сучаснай Слонімшчыне, верагодна, з'явіліся не раней паловы 1-га тысячагоддзя нашай эры. Да гэтага часу насельніцтва краю не ведала варожых пагроз, хоць на іншых тэрыторыях беларускай зямлі гарадзішчы вядомы задоўга да гэтага.

Не гледзячы на разнастайнасць і багацце археалагічных помнікаў, Слонімшчына даволі позна прыцягнула ўвагу краязнаўцаў і даследчыкаў. Толькі ў канцы XIX стагоддзя з'яўляюцца першыя пісьмовыя звесткі аб археалагічных аб'ектах у гэтым краі. Звесткі гэтыя, як і першыя спробы раскопак курганоў, належалі М.Федароўскаму і Е.Міхайлоўскаму, а затым і Ф.Пакроўскаму, які апублікаваў першую археалагічную карту Гродзенскай губерні. У 20-30-ыя гады нашага стагоддзя рэгіён даследаваўся мясцовым краязнаўцам і археолагам І.Стаброўскім, які самастойна і разам з археолагам Р.Якімовічам раскапаў шэраг курганоў і выявіў нямала іншых археалагічных помнікаў у Панямонні. Матэрыялы, сабраныя І.Стаброўскім, увайшлі ў фонды заснаванага ім жа Слонімскага краязнаўчага музея.

Аднак значна больш шырокія і грунтоўныя археалагічныя даследаванні распачаліся тут пасля другой сусветнай вайны. У пачатку 50-ых гадоў з выбарачнай разведкай уздоўж Шчары прайшоў беларускі археолаг А. Мітрафанаў. У 1955 годзе праз Слонімшчыну пралёг шлях славяна-літоўскага атрада Прыбалтыйскай археалагічнай экспедыцыі пад кіраўніцтвам ленінградскага археолага Ф.Гурэвіч, а ў 1959 годзе некаторыя ўжо вядомыя гарадзішчы агледзеў расійскі археолаг П. Рапапорт. У тым жа 1959 годзе дырэктарам Ваўкавыскага



музея Г.Пехам з удзелам Слонімскага музея (дырэктар М.Очкіна) праведзены першыя археалагічныя раскопкі ў цэнтры горада Слоніма, на месцы былога палацавага комплекса М.Агінскага (глядзі матэрыял у гэтым жа выданні). Затым, у 1968 годзе раскопкі тут былі прадоўжаны беларускім археолагам Я.Звяругам. З 1962 года басейн ракі Шчары неадназова абследаваўся беларускім археолагам М.Чарняўскім, які праводзіў і раскопкі. Пазней на Слонімшчыне з разведкай пабывалі беларускія археолагі Л.Побаль, П.Лысенка, У.Ісаенка, А.Краўцэвіч, Н.Здановіч і іншыя.

Аўтарам гэтай кнігі абследаваўся басейн Шчары з 1963 па 1970 год. Пры гэтым было ўпершыню выяўлена, павярхоўна даследавана і апісана каля двухсот археалагічных помнікаў розных гістарычных эпох, у тым ліку і шмат аб'ектаў па-за межамі раёна. У 1965 годзе сумесна з археолагам П.Лысенкам раскапана некалькі курганоў на могільніку ў ваколіцах вёскі Орлавічы, а ў 1966 годзе самастойна праведзены невялікія раскопкі на многаслойным селішчы Русакова-ІІ (глядзі асобны артыкул).

Пры даследаваннях заўважана, што стаянкі так званага каменнага веку (неаліту і мезаліту, 8-3 тысячагоддзе да нашай эры) размяшчаліся, у асноўным, уздоўж рэчышча Шчары і пры возеры Бяздонным, толькі больш позна з іх пранікалі на меншыя рэкі і іншыя вадаёмы. Паселішчы з эпохі бронзы (3-2 тысячыгоддзі да нашай эры) выяўлены на берагах прытокаў Шчары — Ісы, Хітры, Дымаркі. А яшчэ ў пазнейшы час, з асваеннем земляробства, насельніцтва паступова размеркавалася і абжыло ўсю тэрыторыю краю, прыгодную для жыцця, тагачасная апрацоўкі глебы, жывёлагадоўлі.

Калі на месцах стаянак першабытных людзей да нашага часу захаваліся толькі каменныя, крамянёвыя і керамічныя вырабы, як сведчанні жыцця і дзейнасці людзей, то на селішчах так званага жалезнага веку (якія датуецца прыблізна VI стагоддзем да нашай эры — VIII стагоддзем нашай эры) асартымент знаходак становіцца значна шырэйшым. Тут часам удаецца выявіць цэлыя культурныя напластаванні, па якіх можна "прачытаць" многае. Асабліва шмат каштоўных сведчанняў захоўваюць культурныя напластаванні ранняга сярэднявечча. Менавіта на аснове тагачаснага жыцця і падзей фарміраваліся гістарычныя, эканамічныя і культурныя пачаткі нашага грамадства.

На селішчах і гарадзішчах такія напластаванні звычайна невялікія і ў большасці выпадкаў пашкоджаны пазнейшымі землянымі работамі, а на тэрыторыі старых гарадоў яны дасягаюць нават некалькіх метраў. У Слоніме, напрыклад, на месцы раскопак культурныя напластаванні дасягалі амаль пяціметровай таўшчыні. Пры даследаваннях гэтых слаёў важнае значэнне маюць не толькі рэчавыя знаходкі, але і сама структура напластаванняў. Усё разам дае магчымасць вызначыць час існавання помніка, эканамічны стан і культурны ўзровень яго насельнікаў, што вельмі важна ў гістарычнай навуцы. Праўда, па адным, асобна ўзятым помніку, рабіць поўныя вывады складана, таму вядуцца шырокія археалагічныя даследаванні і паступова запаўняюцца вялікія пропускі ў пазнанні далёкага мінулага краю.

Як ужо згадвалася, недзе прыблізна ў сярэдзіне І-га тысячагоддзя нашай эры тут, на вялікай тэрыторыі, амаль адначасова з'явілася неабходнасць у выкарыстанні цяжкадаступных узвышшаў, як часовых сховішчаў. Штуршком паслужыла нейкая раптоўная пагроза навалы, магчыма, нечаканага вонкавага ўварвання іншых плямёнаў.

***(Пачатак у №44).***

